Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень
у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 91 (4343)**

16 лістапада 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Штраф за крыжы ў Курапатах

Адміністрацыйная камісія пры Мінскім райвыканкаме прызнала актывіста **Валерыя Рабцава** вінаватым паводле артыкула 19.3 КаАП (Парушэнне парадку і (або) умоў выканання работ на гісторыка-культурных каштоўнасцях) і пакарала штрафам у памеры 367,5 рубля. Падставай стала тое, што 19 кастрычніка Рабцаў усталяваў у Курапатах крыжы без папярэдняга ўзгаднення з Міністэрствам культуры і мясцовым выканаўчым органам.

СПАДЧЫНА

## І будзе помнік Глебу Менскаму на Плошчы Свабоды




На мастацкім конкурсе па стварэнні помніка князю Глебу Менскаму перамог праект скульптараў Мікалая Байрачнага і Алега Купрыянава, а таксама архітэктара Анатоля Сярэдзіча. Па словах галоўнага архітэктара Мінска Паўла Лучыновіча, з ініцыятывай усталяваць помнік Глебу Менскаму ў гарвыканкам некалькі гадоў таму звярнуліся прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Ідэя была падтрымана кіраўніком сталіцы Андрэем Шорацам, і быў абвешчаны конкурс. Конная постаць князя будзе ўсталявана на плошчы Свабоды, непадалёк ад праваслаўнага Кафедральнага сабора. У конкурсе ўдзельнічалі 17 праектаў.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ДЭПУТАТЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

## Мікалай АКСАМІТ:
# «Беларус як завядзецца, то будзе ісці, як танк, але завесці яго цяжка»




*У фракцыю БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання ўваходзіла ўсяго 28 дэпутатаў. Але яны змаглі павесці за сабой парламенцкую большасць (ад ветэранаў да камуністаў) з мэтай прыняцця жыццёва неабходных для незалежнай Беларусі законаў. Зразумела, ім спрыяў сам час, але і ад высілкаў апазіцыі ў парламенце залежала шмат. Уся краіна разам з імі перажывала падзеі ў Вярхоўным Савеце – ад трыумфу ў верасні 1991-га, калі ў якасці дзяржаўных сімвалаў былі зацверджаны бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня, да трагедыі ў красавіку 1995-га, калі дэпутатаў збівалі ўзброеныя салдаты проста ў зале пасяджэнняў.*

*Некалькі гадоў таму «Народная Воля» вырашыла надрукаваць серыю гутарак з дэпутатамі фракцыі БНФ: іх успаміны, аповеды пра далейшае жыццё, бачанне сучаснай сітуацыі ў краіне. На жаль, з-за перагружанасці газеты з'явіліся толькі некалькі такіх матэрыялаў. Мы вырашылі вярнуцца да ранейшай ідэі і працягнуць цыкл ужо пад рубрыкай «Дэпутаты Незалежнасці». Сённяшняя размова – з* ***Мікалаем Аксамітам,*** *які ў 1990–1995 гадах, з'яўляючыся актыўным сябрам фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, прадстаўляў інтарэсы выбаршчыкаў Ваўкавыска.*

(Працяг на 4-й стар.)

СТРАТА

# «Быць дабру!»

*Такі наказ пакінуў родным і сябрам Ігар Лучанок. 14 лістапада краіна развіталася з кампазітарам, народным артыстам Беларусі і СССР.*

Мноства людзей прыйшло ў той дзень да мінскага Дома афіцэраў, дзе адбывалася развітанне з Ігарам Міхайлавічам Лучанком. Былі сярод іх вядомыя спевакі, музыканты, мастакі, пісьменнікі, спартсмены, палітыкі. Шмат было і проста шчырых прыхільнікаў творчасці Маэстра.

Сімвалам памяці і суму сталі букеты белых і чырвоных руж ды любімых кветак кампазітара – гваздзікоў.

На сцэну адзін за адным узнімалі вянкі, перавязаныя чорнымі стужкамі, ад родных, калег, сяброў, музычных калектываў, удзячных слухачоў. Вянок ад прэзідэнта Беларусі ўсклала кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Качанава, якая наведала Дом афіцэраў яшчэ да пачатку паніхіды.

Людзей было столькі, што падчас жалобнага мітынгу многія стаялі ў праходах канцэртнай залы.

І кожнаму з тых, хто прыйшоў, было што сказаць пра Ігара Міхайлавіча, прыгадаць гісторыю знаёмства, падзякаваць за дапамогу, параду альбо добрае слова, якое стала пуцёўкай у жыццё.

Дырыжор Мінскага сімфанічнага аркестра "Алімпія класік" **Міхаіл Снітко** расказаў, як пазнаёміўся з Маэстра, пра стаўленне Ігара Лучанка да дзяцей і жонкі: *"З Ігарам Міхайлавічам мы пазнаёміліся 30 гадоў таму ў горадзе Магдэбургу, калі я ўзначальваў Ансамбль песні і танца Савецкай Арміі, а ён як народны дэпутат БССР выязджаў з шэфскімі канцэртамі ў Заходнюю групу войскаў. Скажу шчыра, беларуская музыка (а я вывучаў музычнае мастацтва не адно дзесяцігоддзе ў трох кансерваторыях – у Мінску, Маскве і Санкт-Пецярбургу) дасягнула найвышэйшага росквіту менавіта ў яго творчасці. Шэраг песень – сапраўдныя шэдэўры сусветнага і гістарычнага значэння. Яны будуць жыць вечна.*

*Ігар Міхайлавіч меў выдатную адукацыю. Да таго ж яго самавыхаванасць... Ён быў жаўрук. Уставаў у 4 гадзіны раніцы штодзень. Ведаю: ноты, якія можна сёння набіраць на камп'ютары, пісаў ад рукі. Шмат рабіў для людзей, калі знаходзіўся на пасадзе старшыні Саюза кампазітараў Беларусі. Дапамагаў з атрыманнем ганаровых званняў, жылля, пуцёвак у санаторыі.*

*У яго ёсць песня "Спадчына". Трэба сказаць, што словы гэтае – глыбока філасофскае. Ён вельмі ўдзячны быў бацькам. Тата купіў яму трафейнае піяніна, доўга пасля аддаваў даўгі за яго. У Ігара Міхайлавіча цудоўная жонка Аляксандра Рыгораўна. У апошнія гады глядзела за ім, як за дзіцём. А ён хваліўся: жонка гатуе ўсё лепш ды смачней. Ганарыўся Лучанок і дзецьмі: сынам Андрэем і дачкой Святланай. Увогуле ў іх вельмі дружная, моцная, цудоўная сям'я".*

На жалобным мітынгу спачувальныя словы ад прэзідэнта Беларусі зачытаў міністр культуры **Юрый Бондар**. Пасля ад сябе дадаў: *"Маштаб страты нам яшчэ спатрэбіцца асэнсаваць. Ад нас сышоў чалавек, з якім звязана цэлая эпоха ў развіцці беларускага эстраднага мастацтва. Мы выраслі на яго песнях. Маё пакаленне з самага нараджэння было знаёма з бессмяротнымі творамі Ігара Міхайлавіча".*

Падчас мітынгу са сцэны выказвалі спачуванні родным, жонцы Аляксандры Рыгораўне, дзецям Святлане і Андрэю старшыня Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў **Васіль Панасюк**, памочнік міністра абароны **Леанід Касінскі**, рэктар Акадэміі музыкі **Кацярына Дулава**, народны артыст Беларусі кампазітар **Эдуард Ханок**, кампазітар **Галіна Гарэлава**, паэт **Леанід Дранько-Майсюк**, першы сакратар Цэнтральнага камітэта БРСМ **Дзмітрый Варанюк**, старшыня Пухавіцкага раённага Савета дэпутатаў **Аляксандр Прановіч**. Добрымі словамі і цёплымі ўспамінамі дзяліліся заслужаны артыст БССР, саліст ВІА "Песняры" **Леанід Барткевіч**, заслужаная артыстка Беларусі, член Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу **Ірына Дарафеева**. Сябры, знаёмыя, калегі творцы вельмі цёпла і кранальна выказвалі спачуванні, казалі словы падтрымкі сям'і.

У апошні шлях Маэстра праводзілі пад гукі пахавальнага маршу і апладысменты.

Пахавалі кампазітара на Маскоўскіх могілках.

Нагадаем: Ігар Міхайлавіч Лучанок памёр у ноч на 13 лістапада ва ўзросце 80 гадоў.

**Кацярына МЯДЗВЕДСКАЯ.**



## Игорь ЛУЧЕНОК:
### «Мои правила жизни...»

Меня называли композитором при власти. В этом виноваты, видимо, мои мелодии, профессионализм, трудолюбие и... доброта. А если серьезно, я убежден, что человек при любом политическом раскладе должен трудиться. И за свой труд получать вознаграждение. Думаю, против этого никто возражать не станет. Попробуйте, например, подойти к таксисту и сказать: «Провези меня километр бесплатно». Хорошо, если он вас сумасшедшим назовет... Вот так должно быть и в искусстве. Правители меняются, а критерии качества остаются всегда. В противном случае появляются на свет произведения и песни не только без души, но и без мелодий.

Я никогда не хотел уехать за границу. Я народный артист Беларуси. Более того, я верный сын белорусского народа. Не чиновников, а народа. Я написал «Мой родны кут» и «Спадчыну», «Алесю» и «Веронику». Песни на стихи М.Богдановича, Я.Купалы, Я.Коласа да и многих других белорусских поэтов. Как я могу уехать?! Для меня слова «патриотизм», «родина» еще что-то значат. Может, поэтому я и выступаю только для солдат, инвалидов и друзей. Бесплатно.

У меня нет мобильного телефона и студии.

Больше всего ценю в людях порядочность и талант.

Настоящий композитор – тот, кто может написать и эстрадную песню, и симфонию.

В настоящее время талантам очень сложно. Я родился в 1938-м. Страшное время. Аресты, репрессии.

Мне предлагали в свое время баллотироваться в президенты. Я слишком много участвовал в политике. Был депутатом Верховного Совета Республики Беларусь, членом Верховного Совета СССР. Работал, между прочим, в Комиссии по международным делам. И концерты в это же время проводил, ездил повсюду. Ну какой из меня был бы президент? Я музыкант. Моя политика – в моих произведениях. А песни – моя боль…

У меня была клиническая смерть. На том свете мне даже понравилось. Запомнил фосфор, коридор, возвращение…

ПРОТЕСТ

## Сергей БОБРОВ:
# «Люди понимают, что так нельзя!»

«Нет произволу чиновников!», «Нам нужна справедливость», «Требуем зарегистрировать первичную структуру Белорусского Независимого профсоюза». Это главные лозунги и лейтмотив пикета, который прошел в Солигорске 13 ноября на стадионе «Строитель». Акция длилась с 15.30 до 18.00.

Заявитель акции – Независимый профсоюз горняков ОАО «Беларуськалий». На пикете члены НПГ решили выказать свою солидарность с работниками УСП «Трест «Реммонтажстрой», которые несколько месяцев безрезультатно добиваются регистрации структуры Белорусского Независимого профсоюза. Напомним: это около четырех сотен человек.

Вообще в местный орган власти поступили три заявления на проведение протестных акций, посвященных этой теме. Разрешили только одну.

На пикет приехал лидер Белорусского Конгресса независимых профсоюзов Александр Ярошук. А вот представителей райисполкома замечено не было.

На акции присутствовали активисты НПГ, участницы женского направления профсоюза, неравнодушные граждане из числа пенсионеров и не только. Приехали после рабочей смены, уже ближе к окончанию пикета, работники треста «Реммонтажстрой».

Вот выдержки из некоторых выступлений на пикете.




**Николай Зимин**, председатель БНП: *«В Минюсте нам сказали, что не видят каких-то проблем, и все вопросы могут быть решены в рабочем порядке. И вдруг Страпко* (заместитель председателя Солигорского райисполкома. – **Авт.**) *заявляет: мы не обязаны вам разъяснять. Что это за власть такая, которая не может разъяснить законы, принятые в стране? На своем ли месте эти люди находятся?»*

**Сергей Бобров**, лидер все еще не зарегистрированной первичной организации БНП работников упомянутого ремонтно-монтажного строительного предприятия: *«Мы только совместными усилиями сможем переломить эту ситуацию. Сегодня на предприятии был тотальный контроль над нашими работниками. Нас проверяли в течение всего дня. Не только члены профсоюза, но и наши рядовые работники следят за ситуацией, как она развивается. И это искреннее сочувствие и сопереживание. Потому что люди понимают, что так нельзя».*

Участники пикета решили добиваться регистрации первичной профсоюзной организации и в связи со сложившейся ситуацией обратиться в Администрацию президента и международные структуры.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

# Вакханалія ці грэбаванне дэмакратыяй?

Наперадзе – паўтара года *“палітычнай вакханаліі”*. Гэта, на мой погляд, самы красамоўны выраз з наказу Аляксандра Лукашэнкі новапрызначаным мясцовым кадрам, з якімі ён сустрэўся 13 лістапада. Так афіцыйны лідар ахарактарызаваў дзве наступныя электаральныя кампаніі – парламенцкія і прэзідэнцкія выбары.

Вакханалія, паводле слоўнікаў, азначае оргію, гранічную ступень бязладдзя, разгулу. Гэта слоўца трывала асацыіруецца з нечым малапрыстойным. Але ж чакайце – гаворка ідзе пра перыядычныя працэдуры, якія прапісаны ў Канстытуцыі ды ўвогуле з’яўляюцца асновай дэмакратычнага ладу. Атрымліваецца, што ў беларускіх кіроўных вярхах сама неабходнасць датрымліваць тыя працэдуры выклікае кепска схаваную грэблівасць.

Выбарчыя кампаніі ўяўляюцца вярхам нечым непрыемным, як восеньская слота, але куды ж дзенешся. Рытуал ёсць рытуал. Давядзецца ператрываць.

Заўважце: устаноўка, якую прэзідэнт дае вертыкалі, выключае нават найменшую імавернасць, што ў выніку такой працэдуры ўлада можа змяніцца, як тое раз-пораз адбываецца ў краінах Еўропы, ЗША, іншых сапраўдных дэмакратыях. Лукашэнка загадвае падначаленым *“ва ўласцівай манеры прайсці гэты этап, не скінуўшы абароты”*. Іначай кажучы, не дапускаецца і думкі, што народ можа абраць новага лідара, які, адпаведна, сфарміруе новую вертыкаль.

Зрэшты, у нас сапраўды палітычная сістэма забетанавана так, што мыш не праскочыць. Ну якая там вакханалія! Калі ў 2006 і 2010 гадах апаненты рэжыму хаця б ладзілі Плошчу (і то сімвалічную), то прэзідэнцкія выбары 2015 года прайшлі зусім вяла, невыразна, без драйву і вулічных выступленняў. Цяпер жа апазіцыя настолькі маргіналізавана, што, бадай, ніводнай партыі не пад сілу сабраць сто тысяч подпісаў для рэгістрацыі свайго вылучэнца кандыдатам.

Карацей, глуха, як на могілках. І гэта называецца беларускай стабільнасцю. Хаця насамрэч акурат дэмакратыі больш стабільныя. У дэмакратыях няма рэвалюцый, якіх так баяцца аўтарытарныя правадыры, бо там народ можа элементарна змяніць фігуру на чале краіны праз паход на выбарчыя ўчасткі.

Калі ўжо на тое, дык сам Лукашэнка перамог у 1994 годзе на адносна дэмакратычных выбарах. А яшчэ раней стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета ў канкурэнтнай барацьбе, якая камусьці з тагачасных партыйных бонзаў таксама, пэўна ж, здавалася палітычнай вакханаліяй. Між тым менавіта дзякуючы той “вакханаліі” дырэктар саўгаса “Гарадзец” зрабіў фантастычную кар’еру.

Аднак потым у выбарчы механізм быў устаўлены тоўсты ржавы лом. Ратацыя ўладных эліт заблакіравана, калі не лічыць таго пературасання кадраў, што ладзіць сам прэзідэнт.

Пры гэтым ён любіць тлумачыць еўрапейцам, што сапраўдная дэмакратыя і сапраўдныя правы чалавека ў іншым. Нядаўна вось казаў замежнікам на мінскай сустрэчы Асноўнай групы Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы: *“Вы неўзабаве прыедзеце да нас вучыцца нашай дэмакратыі. Таму што ў аснове яе ляжыць стабільнасць і нармальнае жыццё людзей”*.

Але ж і філасофія “чаркі ды скваркі” ўжо не пракочвае! Глядзіце: вертыкаль, нягледзячы на ляскание прэзідэнцкай пугі, усё ніяк не дацягне сярэдні заробак беларусаў да няшчаснай тысячы рублёў. Пры тым што яшчэ пад выбары 2010 года народ атрымліваў па 500 долараў у эквіваленце. Іначай кажучы, сёння ўзровень дабрабыту ніжэйшы, чым быў у мінулым дзесяцігоддзі. Чаму? Таму што забранзавелая ўлада баіцца рэальна ладзіць сапраўдныя эканамічныя рэформы, якія надалі б дынаміку развіццю краіны. Баіцца, што рэформы могуць пахіснуць гэту забетанаваную сістэму.

Так, сапраўдныя выбары дыскамфортныя для тых, хто пры кіроўных пасадах, але ж прымушаюць іх варушыцца, каб давесці электарату, што яны вартыя даверу на яшчэ адну кадэнцыю. Абмежаванне ж колькасці прэзідэнцкіх тэрмінаў замінае ўсталяваць рэжым самаўладдзя, які непазбежна вядзе да загнівання, дэградацыі дзяржавы. Але ж у нас пасля аднаго з сумнавядомых рэферэндумаў ніякага абмежавання няма.

У Польшчы, краінах Балтыі, дзе выбары з’яўляюцца выбарамі і лідары, кіроўныя каманды мяняюцца як пальчаткі, заробкі у два-тры разы вышэйшыя, чым на нашай “выспе стабільнасці”. У той самай Польшчы, якая ў свой час прайшла праз шокавую тэрапію Бальцэровіча, устойлівы эканамічны рост без аніякіх рэцэсій назіраецца ўжо чвэрць стагоддзя!

Іначай кажучы, найбольш багатыя і дынамічныя краіны – менавіта тыя, дзе спраўна дзейнічаюць электаральныя механізмы, дзе раз-пораз адбываецца “палітычная вакханалія”, што ўлівае ва ўладу свежую кроў. І ў Беларусі таксама няма іншага шляху да росквіту.

ФАКТ

## 79% «бытавых» злачынстваў у Беларусі здзейснены п’янымі

Гэта статыстыка дзесяці месяцаў 2018 года. У стане алкагольнага ап’янення знаходзіліся і 17% пацярпелых. Больш за 80% ахвяр у сферы сямейна-бытавых адносін – гэта жанчыны. 40% “бытавых” злачынстваў здзяйсняюцца ў вёсках.



РАЗВІТАЛЬНЫЯ СЛОВЫ

# Жыццё і вечнасць



У лістападзе апаў жыццёвы лісток Ігара Міхайлавіча Лучанка. Дагарэла яго Божая свечка, запаленая закаханымі бацькамі. Скончыўся зямны рай Сына Беларусі, слыннага кампазітара, народнага артыста.

Мне пашчасціла пасябраваць з ім, увайсці ў свет яго творчасці, адчуць тонкую, ранімую, акрыленую душу Маэстра. Вынікам гэтага чалавечага разумення стала мая дакументальная аповесць “Басанож па зорках” – пра вядомага і невядомага Ігара Лучанка.

Крыху пазней кніга ўбачыла свет у перакладзе на рускую мову пад назвай “Мелодия души”. Самай высокай ацэнкай сталі словы самога героя аповесці на сігнальным экзэмпляры: “Не верыцца, што гэта кніга ёсць… Дарагі Уладзімір Сцяпанавіч, не верыцца… Вялікі дзякуй за гісторыю маёй маці і майго бацькі…”

Не хацелася ставіць кропку ў кнізе, бо мой герой заўсёды быў малады душой і натхнёны, у жыццёвым і творчым палёце. Нястомна шукаў новыя мелодыі. І я задаў яму вельмі ж складаную задачу: “Прапануй, Ігар Міхайлавіч, чытачам сваіх восем самых лепшых песень, якія маглі б увайсці ў знакамітую актаву. Хай яны стануць тваімі пасланцамі ў новы век”.

Доўга ламаў галаву кампазітар. Песні, як дзеці, усе любімыя, усе жаданыя. І вось яго асабісты строгі адбор: “Спадчына”, “Мой родны кут”, “Жураўлі на Палессе ляцяць”, “Майскі вальс”, “Алеся”, “Вераніка”, “Авэ Марыя”, “Зачарованая мая”.

Па маёй просьбе Ігар Міхайлавіч у канцы кнігі звярнуўся да сваіх чытачоў. Прыгожым почыркам, няспешна, з душэўнай адказнасцю ён напісаў:



– Хочацца верыць, што людзі мяне крыху ведаюць. Для гэтага я працаваў і працую шчыра і сумленна. Мне падабаецца, што мае мелодыі спяваюць і прафесіяналы, і аматары.

Мару, каб мая душа, якую я ўклаў у песні, хаця б нейкай часцінкай перадалася маім слухачам, тым, хто любіць народную мелодыю, тым, хто адчувае ў маіх песнях святло, надзею.

Буду шчаслівым, калі застануцца жыць хаця б адна-дзве мае песні. Тады і я, кампазітар, буду жыць.

Да сустрэчы ў новым стагоддзі!

Ігар Лучанок
28 кастрычніка 2000 г.
г. Мінск.

Зусім нядаўна ўся Беларусь святкавала васьмідзесяцігоддзе вялікага кампазітара Ігара Міхайлавіча Лучанка. На маёй кнізу “Басанож па зорках” юбіляр напісаў усяго два словы: “Быць дабру!” Цяпер, калі горкая вестка прыйшла ў сэрцы яго паклоннікаў, тыя развітальныя словы І.М.Лучанка гучаць як наказ: “Быць дабру ў нашы родным куце. Быць дабру людзям нашай мілай Айчыны Беларусі. Быць дабру ўсім і кожнаму паасобку!”

Сваім жыццём, творчасцю, сваёй нястомнай, іскрыстай душой незабыўны Ігар Міхайлавіч Лучанок тварыў Дабро. За гэта яму нізкі паклон і вечная памяць. Ён шчыра заслужыў самую вялікую ўзнагароду – Жыццё пасля жыцця.

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**лаўрэат Дзяржаўнай літаратурнай прэміі,**
**заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь.**

СТОП-КАДР




# «БЕЛДЖИ» представил новинку

**На заводе официально открыли старт продаж седана Geely Emgrand 7. Цены остались на заявленном ранее уровне – базовая версия стартует с 23 тысяч рублей. Уже собрано 600 автомобилей, которые отправятся в семь дилерских центров по всей Беларуси.**

СПАДЧЫНА

# У Гродне пакажуць адноўленыя дакументы

*У гродзенскім Новым замку на наступным тыдні пачне дзейнічаць новая экспазіцыя “Сакральная спадчына Панямоння”. На ёй будзе прадстаўлена частка адноўленага архіва гродзенскіх брыгітак.*

Архіў быў знойдзены два гады таму ў Гродне польскім прафесарам Марыяй Каламайскай-Саед. Дакументы, як толькі іх узялі ў рукі, літаральна рассыпаліся, але дзякуючы адмыслоўцам Музея Падляскага ў Беластоку каля 300 няісшытых старонак-картак адноўлены і на пачатку года вярнуліся ў Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей. На гэта польская дзяржава выдзеліла больш за 9 тысяч долараў.

Дакументы датуюцца рознымі эпохамі – ад XVI да XX стагоддзяў. Сярод іх правілы ордэна, падрабязны рэгламент жыцця манашак, малітоўнікі і спеўнікі, спісы нерухомасці, якая належала кляштару. Унутраная перапіска, як правіла, вялася па-польску, а перапіска з чыноўнікамі – па-руску.

У гродзенскі музей архіў трапіў пасля таго, як у 1950 годзе савецкія ўлады перадалі будынкі кляштара псіхіятрычнаму шпіталю. Больш за паўстагоддзя гістарычныя паперы нават ніхто не разбіраў.

На выставае “Сакральная спадчына Панямоння” будуць прадстаўлены і партрэты сям’і магнатаў ВКЛ Весялоўскіх. Менавіта Кшыштаф Весялоўскі і ягоная жонка былі заснавальнікамі гродзенскага кляштара брыгітак. Яны зрабілі гэта ў памяць аб сваёй прыёмнай дачцэ, якая заўчасна пакінула гэты свет.

Доўгі час палотны з выявамі Весялоўскіх лічыліся страчанымі, але ў 1966 годзе іх знайшлі ў крыптах касцёла Дабравешчання Панны Марыі. Зараз партрэты знаходзяцца сярод экспанатаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Дарэчы, большая частка архіва брыгіцкага кляштара, які ствараўся з 1634 года – з часу, калі у Гродне пачаў дзейнічаць ордэн брыгітак, не захавалася. У 1842 годзе расійскія ўлады забаранілі прымаць новых манашак у кляштар. І калі ў 1908 годзе памерла апошняя з брыгітак, віленскі біскуп Эдвард Роп перавёз у гродзенскі кляштар некалькі манашак-назарэтанак, а расійскім уладам выдаваў іх за брыгітак.

Назарэтанкі прызналіся, хто яны насамрэч, толькі ў часы, калі Польшча аднавіла сваю незалежнасць і Гродна быў уключаны ў яе склад. У 1950 годзе савецкія ўлады ліквідавалі кляштар і перадалі будынкі псіхіятрычнаму шпіталю.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

**На здымку: Брыгіцкі кляштар у Гродне.**



ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Улыбка Путина

Назначение на пост Чрезвычайного и Полномочного Посла Беларуси в Москве Владимира Семашко вызвало у Владимира Путина улыбку. В этом признался президент Беларуси, разговаривая с этим вновь назначенным дипломатом, еще не успевшим толком отдохнуть после ухода из вице-премьерского кресла: «Он так с улыбкой говорит: ну, я жду Владимира Ильича в Москве. Я, говорит, с удовольствием, пусть приезжает в Москву Владимир Ильич, мы знаем его хорошо. То есть очень позитивное было отношение».

«Он» в данном случае – Путин. Он ждет Семашко. С улыбкой ждет.

За эти годы Путина изучил весь мир – похоже, кроме его белорусского коллеги. Там, где крокодил льет слезы, хозяин Кремля улыбается. То есть он бы еще и облизнулся, но тогда впечатление от улыбки получилось бы скомканным. А так – все прекрасно, друзья мои, присылайте своего Владимира Ильича. Один Владимир Ильич в Москве уже есть, прямо на Красной площади отдыхает. И второму местечко найдется. Отдохнет от бесконечной борьбы за снижение цены на нефть до уровня Смоленской области. «Лукойл» и «Роснефть» ему даже мавзолей могут соорудить – неподалеку от первого Владимира Ильича.

Понятно, что в Москву нужно направлять политического тяжеловеса. Но здесь направляют танк, причем танк явно устаревшей конструкции. Чиновника достаточно неповоротливого, российскому руководству действительно известного, а потому и не слишком приятного. Какое тут позитивное восприятие может быть, если Владимир Семашко все эти годы танком пёр на переговорах по нефти и газу? Позитивное – это когда отправили бы Мясниковича, умеющего лавировать в ожидании положительного решения. А здесь – в ответ только улыбка, причем улыбка, ничего хорошего нам не предвещающая.

Очень плохая параллель была бы, если бы Лукашенко вспомнил в данном случае еще и историю с Черномырдиным. Покойный Виктор Степанович был назначен послом России в Киев, когда Украиной руководил его личный друг Леонид Кучма, – и здесь межгосударственные проблемы легко решались, в том числе за стаканом старого доброго коньяка. Семашко же имеет в России репутацию жесткого переговорщика, причем переговорщика, к тому же не всегда действующего умно и дипломатично (в понимании российской стороны).

Поэтому слова Александра Григорьевича о позитивной улыбке Владимира Владимировича можно воспринять либо как детскую наивность (ну наивный человек наш президент – столько предвыборных вакханалий прошел, а девственность политическую хранит…), либо как неприкрытое издевательство над новым послом. Мол, езжай, Ильич, на свою каторгу, а мы тут за тебя помолимся, чтоб улыбчивый палач там не слишком зверствовал. Помолимся-помолимся, не волнуйся!

Не думаю, чтобы пытка Москвой была столь уж страшна. Во всяком случае, выжигать кремлевские звезды на теле закаленного, как сталь, ветерана белорусских правительственных кабинетов никто явно не станет. Но нервы ему попортят. Думаю, известный снимок, на котором был изображен господин Семашко вскоре после отставки с поста заместителя главы нашего правительства, сделан был как раз в то время, когда Владимир Ильич обдумывал свое дальнейшее бытие в ожидании агремана (согласия российской стороны на его назначение). Ибо был он грустен, как никогда. Все понятно: попытка не пытка, но за безрезультативность очередных переговоров спрашивать будут в том числе и с него. Раньше не только с него, но и он спрашивал, а теперь исключительно с него спросят. В общем, есть отчего буйну голову повесить.

Ничего хорошего, в общем, эта улыбка Путина нам не сулит – особенно на фоне постоянно меняющейся нефтяной конъюнктуры. Вот опять упала цена на нефть. Значит, и на нефтепродукты. Следовательно, наш бензин опять будет стоить на внешнем рынке дешевле. А на нашем внутреннем рынке опять он будет стоить дороже. Считайте, что это такой же парадокс, как улыбка Чеширского кота в сказке об Алисе в Стране Чудес. То есть котов без улыбки мы видали, а вот чтобы улыбку без кота… Вспомнили? Сейчас представьте себе Путина улыбающегося, потом Путина без улыбки и наконец улыбку без Путина. Ни один вариант, скажу честно, нас не устраивает. Мы завязли так глубоко в интеграции с Россией, что сколько Семашек в Москву ни посылай, вытащить нас оттуда – увы! – вряд ли получится. Доулыбались. Дообнимались. Доинтегрировались.

СКАНДАЛ

Анна КРАСУЛИНА:

# «Нет, не из-за талончика меня хотят разлучить с семьей...»

*До 30 ноября Анна Красулина – гражданка России, которая с 2002 года имеет вид на жительство в Беларуси, – должна покинуть нашу страну. Такое решение 13 ноября приняли в УВД Московского района Минска. Анна это решение считает политически мотивированным и намерена побороться за то, чтобы не разлучаться со своей семьей и пожилыми родителями.*



### «Выслать в интересах общественного порядка»

– Это как гром среди ясного неба, – *рассказывает Анна Красулина, пресс-секретарь Объединенной гражданской партии.* – Началось с того, что в пятницу 9 ноября мне позвонили из отдела по гражданству и миграции Московского района Минска и попросили зайти к ним в субботу. Но на этот день у меня была запланирована очень важная поездка по Беларуси. Так что я попросила перенести этот визит.

**– Причину, по которой вызывают, сразу не сообщили?**

– Нет. В Беларуси я живу с 2002 года, имею вид на жительство, и за все это время никогда в миграционные службы меня не вызывали. Я, конечно, сказала руководству партии, что был такой звонок, поговорила с правозащитницей Леной Тонкачевой, которую четыре года назад высылали из Беларуси. Лена предположила, что, скорее всего, мне вынесут предупреждение, и я совершенно спокойно утром 13 ноября пошла в отдел по гражданству и миграции Московского района.

Но там сотрудники сразу же меня огорошили: «*У нас к вам будет неприятный разговор. Речь идет о высылке*». Видно было, что им очень неудобно, они выражали сожаление и почти сочувствие. О сроке высылки решение должны были принять в УВД района, куда меня и пригласили к 15 часам. И уже там подполковник Колодинский зачитал мне официальный документ, из которого следовало, что 2 ноября 2018 года в адрес Московского РУВД Минска пришло сообщение за №916 для служебного пользования и, *«согласно информации, изложенной в сообщении, есть основание для высылки гражданки РФ Красулиной А.В. из Республики Беларусь»*. А именно – за то, что я трижды привлекалась к административной ответственности, в том числе дважды за участие в несанкционированных массовых мероприятиях. Причем в документе была фраза, что данные обстоятельства являются основанием для высылки меня из Республики Беларусь *«в интересах общественного порядка»*.

Мне, конечно, очень хотелось уточнить, что за интересы общественного порядка заставляют наши органы творить такой беспредел, но Дмитрий Иосифович Колодинский принял решение, не выслушав моих возражений.

**– И в самом деле, что это за правонарушения, за которые вас решили выслать из страны?**

– Во-первых, по закону, чтобы выслать из страны, эти нарушения должны быть совершены в течение года, а у меня за последний год было только одно. Во-вторых, я не согласна с тем, что это вообще правонарушения. Первый штраф мне дали в августе 2016 года в период избирательной кампании в парламент, когда мы проводили пикет по сбору подписей за кандидата от ОГП Николая Козлова *(сегодня он исполняет обязанности председателя партии. – **Ред.**)*. Это разрешено законом Республики Беларусь! Другое дело, что сотрудникам милиции очень не понравились темы, поднятые на нашем пикете недалеко от здания МВД: от министра Шуневича мы требовали соблюдать закон и ориентировать своих подчиненных на пресечение фальсификаций в ходе выборов, а прохожим напоминали, что дело об исчезновении экс-министра МВД Юрия Захаренко не только не раскрыто, но он так и не признан умершим, его 92-летняя мама не может получить пенсию по потере кормильца, хотя прошло уже 17 лет… МВДшников это страшно нервировало, поэтому, полагаю, они поднажали, где надо, и нам впаяли штрафы.

Второй штраф мне дали 21 апреля 2017 года за то, что, встречая с Окрестина активистов, отсидевших пять суток за участие в Дне Воли 25 марта, мы развернули бело-красно-белый флаг. Мы держали его с Николаем Статкевичем, Владимиром Некляевым, Павлом Северинцем. Но это – не массовая акция! Просто из СИЗО одновременно выходило много активистов, поэтому было много встречающих.

Штрафы тогда выписали всем. И все штрафы были погашены вовремя.




ШТРИХ

## Что написано в законе?

*На официальном сайте Департамента по гражданству и миграции МВД Республики Беларусь перечислены случаи, когда иностранца могут лишить вида на жительство в РБ. Среди прочих оснований есть и такие:*

«Основания для аннулирования иностранному гражданину или лицу без гражданства (далее – иностранец) разрешения на постоянное проживание в Республике Беларусь изложены в первой и второй частях статьи 57 Закона Республики Беларусь «О правовом положении иностранных граждан и лиц без гражданства в Республике Беларусь» (далее – Закон). В соответствии с вышеупомянутым, разрешение на постоянное проживание, выданное иностранцу, может быть аннулировано, если:

установлены основания, предусмотренные абзацами четвертым, пятым или десятым части первой статьи 30 Закона (т.е. в тех случаях, когда: иностранец осужден в Республике Беларусь или другом государстве за совершение преступления, признаваемого таковым в соответствии с Уголовным кодексом Республики Беларусь, и судимость не снята или не погашена; иностранец во время своего пребывания в Республике Беларусь неоднократно (два и более раза) в течение одного года привлекался к административной ответственности и не истек срок, по окончании которого он считается не подвергавшимся административному взысканию;

пребывание иностранца в Республике Беларусь противоречит интересам национальной безопасности Республики Беларусь, общественного порядка, защиты нравственности, здоровья населения, прав и свобод граждан Республики Беларусь и других лиц».

Ну, а третье правонарушение… В этом году накануне празднования Дня Воли я ехала вечером домой и не успела оплатить проезд в автобусе: руки были заняты шариками с логотипом ОГП и другими материалами к празднованию 100-летия БНР, а тут еще родители позвонили... Проговорила до следующей остановки, а там – контролер. Что делать – оплатила штраф на месте.

И вот теперь, по сути, меня высылают из страны, разлучают с семьей, оставляют без помощи моих пожилых родителей, обосновав все это тем, что я не пробила вовремя талончик! Других правонарушений за последний год у меня не было! Названная причина – полнейший абсурд! Подумайте сами: разве это соразмерное наказание? Уверена, это политически мотивированное решение. И за этим стоит, возможно, не только милиция…

**– С 2002 года у вас были еще административные нарушения?**

– Нет. Только эти три.

**– Что собираетесь делать? Есть куда ехать?**

– В том-то и дело, что нет. Здесь моя семья, мой дом, мои родители, которых я перевезла в Беларусь с Урала в 2006 году. Сейчас им уже требуется помощь. А кроме меня у них тут никого нет!.. Мой муж – белорус, дети – белорусы! Когда мы поженились (мы были студентами второго курса МГУ: он – истфака, я – филфака), Женя сразу сказал: жить будем только в Беларуси. И хотя после аспирантуры ему предлагали остаться в Москве, он отказался…

Выехать из Беларуси я должна до 30 ноября, высылают меня на один год – максимум можно на пять. Просто либералы… Причем мне намекали, что если я не буду обжаловать это постановление, то мне даже скостят срок до полугода, а потом, может, и до трех месяцев.

**– Но вы, я так понимаю, собираетесь его обжаловать**.

– Конечно. Сначала обжалую это постановление в ГУВД Мингорисполкома, а потом, если понадобится, пойду в суд.

**– А в российское посольство будете обращаться с просьбой защитить ваши права?**

– Пока думаю. Конечно, учитывая то, как со мной незаконно поступили белорусские власти, я должна обращаться куда только можно. Но не уверена, что с сотрудниками российского посольства я найду общий язык. Дело в том, что я никогда не скрывала своих взглядов на политику кремлевских правителей. Я не поддерживаю и не разделяю ее и называю вещи своими именами. Для меня неприемлемо то, что делает российская власть, – аннексия Крыма, война, которую Россия развязала в Украине, Грузии…

### «Я имею право не только заниматься политикой, но и избираться в местные органы власти»

**– Анна, а почему за столько лет проживания в Беларуси вы не получили гражданства?**

– На то были серьезные причины.

В 17 лет я уехала в Москву, сначала работала, училась вечерами на подготовительных курсах, поступила в МГУ. В 1992 году я попала в ДТП, мне сделали серьезную операцию по замене тазобедренного сустава. Это сегодня обычное оперативное вмешательство, а тогда такие операции только начинали делать. Я попала в руки к очень хорошим специалистам, оперировали меня, не удивляйтесь, в Кремлевской больнице – это были годы, когда Борис Ельцин вел борьбу с привилегиями и обычные люди могли лечиться там же, куда раньше попадали только чиновники.

Такие суставы служат только 20 лет, и я догадывалась, что может так случиться, что мне придется повторно обращаться к тем самым врачам. Конечно, я консультировалась с травматологами-ортопедами в Беларуси. Но у нас здесь с таким протезом не работают, привезти такой в Беларусь специально можно только за очень большие деньги, которых у меня нет. Причем мне нужно было менять не всю конструкцию, а только часть протеза, поэтому принципиальное значение имели марка и производитель. Что еще важно: врач, который лечил меня в 1991 году, работает до сих пор. И он с удовольствием согласился снова меня оперировать – для него это было в том числе важной информацией о том, как ведет себя протез, какова реакция организма. Это тот опыт, из которого рождается мастерство хирурга. В декабре 2014 года в Москве мне сделали повторную операцию.

**– Но сейчас уже 2018 год…**

– После операции я восстанавливалась полтора года, только на костылях ходила полгода, потому что мне делали остеопластику. Эта технология позволит при необходимости сделать еще одну подобную операцию.

Конечно, в семье мы обсуждали вопрос белорусского гражданства, но прикинули, что если я начну процедуру его получения, то меня могут выслать еще раньше. Дело Лены Тонкачевой уже было перед глазами… В 2010 году после президентских выборов меня как пресс-секретаря Объединенной гражданской партии вызывали на допросы в КГБ, и там следователи были не в курсе, что я гражданка России. То есть у них плохая коммуникация между ведомствами. Поэтому мы решили не махать красной тряпкой перед быком и не светить лишний раз этот факт, чтобы не нарваться на высылку. Какое-то время это удавалось…

**– Анна, когда появилась информация о вашей высылке, в интернете кое-кто тут же стал писать: мол, все правильно, нечего россиянке участвовать в политической жизни Беларуси, состоять в партии...**

– Во-первых, чаще всего эти «кое-кто» являются обыкновенными троллями. Обратите внимание: они путаются в деталях и противоречат сами себе. Во-вторых, вид на жительство не означает, что я не могу заниматься политической деятельностью, высказывать свои взгляды. Можно подумать, что если человек живет с таким статусом, то он лишен базовых прав человека: свободы слова, собраний, ассоциаций и т.д.! Единственное ограничение – я не могу избираться и быть избранной в Парламент и на пост президента. Но я, например, вполне могу избираться в местные Советы.

### «Выхожу из лифта, а на стене плакат: «Аня, держись!»

**– Как домашние восприняли новость о высылке?**

– Очень мужественно, они не унывают, поддерживают меня. Слава Богу, мы не только семья, мы – одна команда. Единственное, что ехать пока некуда, и, конечно, очень не хочется.

Здорово помогает поддержка друзей, знакомых. 13 ноября вышла из лифта на своем этаже, а на стене плакат «Аня, держись, мы с тобой!». Кто-то из соседей повесил. Было, конечно, очень приятно.

**– Родителям уже сообщили?**

– Нет, и даже не знаю, как им сказать. У мамы гипертония, сахарный диабет, у папы сердце слабое… Они меня всегда немножко корили за то, что я ушла в политику. Я же, когда мы с мужем приехали в Беларусь, работала в серьезной иностранной компании, имела хорошую зарплату. Но в 2006 году не осталась в стороне от президентских выборов, была на Площади. И меня уволили: один из охранников, как оказалось, сотрудничал с КГБ, и руководству поставили условие: или-или. Меня рассчитали за два часа, я потом долго не могла трудоустроиться. Александр Добровольский, с которым познакомились во время кампании Милинкевича, стал привлекать меня к партийным делам. В 2011-м я стала пресс-секретарем ОГП.

Работаю на волонтерских началах, от статуса тунеядца, как бы это горько ни звучало, меня спасает моя инвалидность 3-й группы – из-за сустава.

**– Анна, а если все же придется покинуть Беларусь, думали, где будете жить?**

– Если честно, пока нет. В партии уже предложили домик в Украине, который остался у кого-то от родственников…

Были бы деньги, то, возможно, год продержалась бы, хотя не могу представить, как эта вся ситуация отразится на моих родителях. Но мы живем очень скромно. Муж преподает в БГУ, там зарплаты небольшие. Дети учатся: сын – в аспирантуре, дочь – в университете. Сын, правда, уже работает, но вряд ли он сможет меня содержать. Тем более что у нас еще не погашен кредит, который брали на строительство квартиры.

**– То есть живете все в одной квартире? А как же миллионы долларов, которые якобы оппозиция получает от западных спонсоров?**

– «Золото партии» – оно существует только в фантазиях тех, кто насмотрелся БТ. У нас в партии многое делается на волонтерских началах – люди, к сожалению, это не всегда понимают.

Мы очень долго жили в общежитии, старшему сыну было 17 лет, когда у нас появилась собственная квартира в доме типового МАПИДовского проекта. Это фактически социальное жилье в микрорайоне «Брилевичи». Муж стоял на очереди в БГУ, конечно, не в первых рядах. Но когда начали строить дом, там было несколько четырехкомнатных квартир, на которые могли претендовать только многодетные семьи. Но кто в общежитии рожает троих или более детей? Тогда стали предлагать эти квартиры с доплатой живыми деньгами практически по рыночной стоимости. Нам помогли родители мужа, они полностью проплатили этот дополнительный пай. А свой кредит мы до сих пор выплачиваем.

У нас последний, 19-й, этаж. Первоначально нам выделяли квартиру на 11-м, но люди, которые по жребию получили 19-й, пообещали устроить скандал, что грозило задержкой заселения всего дома на несколько лет. Мой муж тогда предложил решение, и в результате системы обменов заселение прошло в срок. А мы приобрели преимущество – оборудовали лоджию под бар, и майскими вечерами сидим и слушаем соловьев.

**– Анна, если все же придется уехать на год, потом сможете вернуться?**

– Конечно. И вернусь. Хотя… давайте подождем – может быть, здравый смысл возьмет верх. Неужели Беларусь в очередной раз ударит лицом в грязь перед всем миром?

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ОФИЦИАЛЬНО

Антон ГАПОНЕНКО,
начальник отдела по гражданству и миграции Московского РУВД г.Минска:

## «Это характеризующий материал»

Каковы же причины высылки из страны Анны Красулиной и как понимать запись в постановлении, что это решение принималось «в интересах общественного порядка»? Можно ли, учитывая семейное положение Анны, отменить это постановление? За комментарием мы обратились к начальнику отдела по гражданству и миграции Московского РОВД столицы **Антону Гапоненко**.

– Это решение было принято в интересах общественного порядка – это все, что я могу сказать, – заявил Антон Николаевич.

**– А что значит «в интересах общественного порядка»? Ведь по закону в течение одного календарного года должны быть три административных нарушения, и случай с Красулиной под это не подпадает…**

– Во-первых, одно действующее правонарушение у нее есть. Но дело даже не в этом. По факту эти правонарушения имели место, это характеризующий материал. Она была привлечена к административной ответственности, ни одно ее дело не было прекращено после его обжалования.

**– Антон Николаевич, а почему сразу было принято такое суровое решение? Согласитесь, неоплаченный проезд – это как-то несерьезно. Почему, учитывая семейные обстоятельства Красулиной, не вынести на первый раз хотя бы предупреждение?**

– Конечно, понятно, что там семья, родители. Человеческий фактор… Но в данном случае, к сожалению, было принято такое решение.

**– Анна собирается его оспаривать. Как думаете, у нее есть шансы что-то изменить?**

– Честно сказать, из десяти решений, может, лишь одно оспаривается. Мне кажется, что в данном случае вряд ли.

**– А как часто иностранцев, которые имеют вид на жительство, высылают из Беларуси?**

– Достаточно часто.

**– И какая статистика?**

– Точных цифр у меня сейчас нет, но часто. Этот случай не исключение. Как правило, высылают за административные протоколы: нарушение общественного порядка, вождение транспортных средств в состоянии алкогольного опьянения – это самая распространенная причина.

РЕАКЦИЯ

Николай КОЗЛОВ,
исполняющий обязанности главы Объединенной гражданской партии:

## «Поднимем всех!»

***Как собирается партия защищать интересы своего сотрудника?***

На специально созванной пресс-конференции лидер партии Николай Козлов сделал заявление: «*Эта высылка абсолютно незаконна, поэтому политсовет ОГП считает это политической расправой, нарушением прав человека и международных обязательств Беларуси. А учитывая разделение семьи, это антигуманный и бесчеловечный поступок. Мы будем бороться за Анну всеми возможными способами: это и подача жалоб, и суды, будем апеллировать к международному обществу*».

По словам бывшего председателя партии Анатолия Лебедько, о «деле Красулиной» услышат и в Европейской народной партии, и в Европарламенте, и в посольствах, и в Совете Европы, и в ОБСЕ. «*Мы, безусловно, будем использовать международную трибуну, чтобы говорить о «политической вакханалии», инициированной властями в преддверии избирательных кампаний*», – заметил Анатолий Лебедько.

Но готовы ли партийцы к более радикальным мерам по защите Анны Красулиной?

– *Мы впервые сталкиваемся с такой ситуацией, поэтому прорабатываем разные варианты, решаем, какие действия будут наиболее эффективными*, – пояснил «Народной Воле» Николай Козлов. – *14 ноября я попытался записаться на прием к министру Шуневичу, но мне было отказано. А что касается протестной акции – если бы это действительно решало проблему, то у стен МВД стояли бы и сто, и триста членов партии. Но насколько это эффективно? Я знаю абсолютно точно: мы сделаем все возможное по защите Анны Красулиной. Поднимем всех!*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
16 ЛІСТАПАДА 2018 г.

ДЭПУТАТЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

# Мікалай АКСАМІТ: «Беларус як завядзецца, то будзеісці, як танк, але завесці яго цяжка»



З жонкай Галінай.

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

### «Дзеда закатавалі ў Рэплі ў пастарунку»

**– Мікалай Уладзіміравіч, у вас гэткае рэдкае, мякка-далікатнае прозвішча, відаць, паўднёвага паходжання. Бо аксаміт – гэта шаўковая тканіна з падатлівым ворсам, а ёсць яшчэ і кветкі аксаміткі. Кім былі вашы бацькі і дзяды, хто ўзнагародзіў вас такім прозвішчам?**

– Мой дзед па мячы (па мужчынскай лініі) быў з вёскі Радзявічы каля Рэплі (цяпер гэта Ваўкавыскі раён). Быў мабілізаваны на Першую сусветную вайну, а сям'я з трыма дзецьмі апынулася ў Расіі, пад Варонежам. Яны там і засталіся – дзед, вярнуўшыся з фронту, нікога дома не знайшоў. Мой бацька толькі перад Другой сусветнай атрымаў паведамленне, дзе жывуць яго браты. Дзед жаніўся другі раз, і бацька нарадзіўся ўжо ў другім шлюбе. Літаральна пару гадоў таму я знайшоў сваіх стрыечных братоў праз інтэрнэт – прозвішча ж вельмі рэдкае. Жывуць мае зводныя браты ў Жукоўскім пад Масквой, прыязджалі ў госці на радзіму продкаў.

**– Дзед ваяваў за Расійскую імперыю, а вымушаны быў жыць у Польшчы. Як склаўся яго далейшы лёс?**

– Трагічна. У Заходняй Беларусі быў вельмі моцны антыпольскі рух. У дзедавай хаце сабраліся жанчыны на попрадкі, а нехта данёс у дэфензіву, што ў Аксамітаў адбываюцца антыдзяржаўныя сходкі. Дзеда арыштавалі, завезлі ў Рэплю ў пастарунак і там закатавалі, нічога не даказаўшы. Дзед не ўдзельнічаў ні ў якіх беларускіх арганізацыях, некаторыя з іх, дарэчы, кантраляваліся праз мяжу камуністамі. А сяляне ў Заходняй Беларусі сапраўды чакалі савецкую ўладу. Бацька расказваў, што праз сваіх людзей саветы дапамагалі матэрыяльна беднякам: каму карову купіць, каму яшчэ што. І людзі думалі: калі яны нам пад палякамі дапамагаюць, то ўжо калі прыйдуць, то тут будзе сапраўдны рай. А калі саветы ў 1939-м прыйшлі, то беларусаў чакала вялікае расчараванне.

**– Непадалёк ад вашай вёскі ля Рэплі быў хутар Жлобаўцы. Ведаеце, хто там нарадзіўся?**

– Ларыса Міклашэвіч, якую ўся Беларусь ведае як Геніюш. Мне бацька яе паказваў, калі я быў яшчэ хлопчыкам. Ён усё жыццё працаваў вадзіцелем аўтобуса ў Ваўкавыску і часам браў у рэйс і мяне – не было з кім пакінуць. І вось аднойчы ён паказаў мне на адну пасажырку: «Запомні, сынок, гэта пісьменніца Ларыса Геніюш, яна вельмі адукаваны чалавек, піша кнігі, а працуе медсястрой у бальніцы». У бацькі таксама быў цяжкі лёс. Калі дзеда забілі ў польскім пастарунку, у маці засталося двое малых дзяцей – ён і малодшая сястра. Здарыўся пажар – згарэла хата, бацька ледзь паспеў вывесці з хлява каня. І жылі яны ў хлеўчыку з гліны і саломы – добрыя людзі пусцілі. Бацька летам наймаўся пастушком, а зімой браў торбу і хадзіў жабраваць. Калі прыйшлі саветы, яго, 12-гадовага падлетка (быў жа конь!), ганялі на лесанарыхтоўкі лес траляваць.

### «Стаць дэпутатам Вярхоўнага Савета мне дапамагла кампартыя»

**– Сялянскі ўнук і сын шафёра, вы ў 1990 годзе вырашылі ісці ў палітыку. У вас у Ваўкавыску былі ўплывовыя канкурэнты, у тым ліку прадстаўнікі ўлады. Як вам удалося іх перамагчы?**

– Мне камуністычная партыя дапамагла. На ўсе мае сустрэчы з выбаршчыкамі прыязджаў з гаркама ці загадчык аддзела, ці які інструктар, які пасля майго выступлення ўставаў і казаў: «Аксаміт – пусты чалавек, не галасуйце за яго». І гэта спрацоўвала, але ў адваротным напрамку! Калі потым загадчыца аргаддзела гаркама Тамара Грэцкая ўручала мне дэпутацкае пасведчанне, я падзякаваў і сказаў, што толькі з дапамогай кампартыі стаў дэпутатам.

**– А хто быў вашым канкурэнтам на выбарах?**

– Сапернікаў у мяне было аж шэсць чалавек. Сярод іх генерал Уладзімір Данько – начальнік Гродзенскага ўпраўлення ўнутраных спраў, начальнік абласнога гандлю, дырэктар завода. Фактычна я быў абраны ў першым туры. Мяне ўжо нават павіншаваў рэдактар раённай газеты, а потым патэлефанавалі з выканкама – два ці тры галасы не хапіла. Таму адбыўся другі тур – я і дырэктар завода. Прызнацца, мне было яго проста шкада. Яго піхаў на выбары гарком партыі. А мясцовая ўлада настолькі ўжо ўсім абрыдла... І я быў першым чалавекам, які адкрыта выступіў супраць той улады, што вельмі імпанавала людзям. Я вельмі актыўна сустракаўся з выбаршчыкамі – па тры-пяць сустрэч у дзень. Памятаю, выступаў у Ваўкавыскім ДЭУ. Нешта туды аўтобусы не хадзілі, давялося ісці пешкі праз увесь горад. Я выступіў, мяне прыхільна прынялі. І паспрабаваў той гаркамавец вылезці. А дырэктар ДЭУ яму кажа: «Прабачце, у нас сустрэча з кандыдатам у дэпутаты Аксамітам, а вас мы не запрашалі». Асадзіў яго публічна, а мне руку паціснуў і сказаў: «Мікалай Уладзіміравіч, мой вадзіцель адвязе вас дадому». Бачыце, нават у дырэктарскага корпусу да партыі тады павагі не было.

### «Калі ў зале Вярхоўнага Савета адчувалася падтрымка з плошчы, тады нам усё ўдавалася»

**– У Вярхоўным Савеце вы ўваходзілі ў камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны (яе яшчэ называлі «камісіяй Гілевіча»). Чым вы там займаліся?**

– Падрыхтоўкай законаў аб сімволіцы, аб культуры, аб адукацыі. Памятаю, Закон аб культуры я, можа, разоў шэсць ад рукі перапісаў! Камп'ютараў жа тады не было. Ездзіў з праектам таго закона па рэгіёнах, сустракаўся з музейшчыкамі, з бібліятэкарамі, з творчымі работнікамі. Я сам мастак і добра разумеў, што, калі пачнуцца рыначныя адносіны, уздымуцца кошты на ўсё, у тым ліку і на мастацкія майстэрні. І мастакі не змогуць за іх плаціць. Я заклаў норму ў законе, каб арэндная плата за майстэрні не перавышала кватэрплату. На жаль, юрысты тую норму прыбралі. У выніку і сёння мастакі пакутуюць.

**– Вашых аднадумцаў у Вярхоўным Савеце было тры-чатыры дзясяткі. Як вам удавалася прымаць законы, якія не маглі падабацца парламенцкай большасці?**

– Калі казаць пра нашу камісію, то там практычна ўсе былі аднадумцы. У нас быў толькі адзін камуніст – Зянон Ломаць, былы партработнік. А чаму падрыхтаваныя намі законы праходзілі? Камуністы тады былі ў разгубленасці. Да таго ж на плошчы заўсёды стаялі людзі. З той парламенцкай большасці можна было ляпіць усё што хочаш, як з пластыліну ці з воску. Прывяду такі прыклад. 1991 год, жнівень. Пасля правалу ГКЧП да мяне падыходзіць напалоханы дэпутат Мікалай Лакцюшын, былы вайсковец: «Мікалай, май на ўвазе: я са Смаленска, а значыць, таксама беларус». А звычайна выступаў за Расію, за партыю і г.д. Услед за Лакцюшыным бярэ мяне за рукаў дэпутат-камуніст: «Мікалай Уладзіміравіч, ты ж ведаеш…» Так што ў іх быў нейкі жывёльны страх, яны баяліся, што мы іх пачнём ставіць да сцяны. Шкада, што мы іх тады не дацiснулі.

**– А хіба не дацiснулі? І нацыянальную сімволіку ў якасці дзяржаўнай зацвердзілі, і многія неабходныя законы прынялі.**

– Так, удалося зацвердзіць бел-чырвона-белы сцяг і Пагоню. Разумееце, калі ў зале адчувалася падтрымка з плошчы, тады нам усё ўдавалася. Калі падтрымка аслабела, камуністы тут жа апомніліся і адчулі сваю моц. На маю думку, усе дасягненні апазіцыі ў Вярхоўным Савеце – гэта заслуга не толькі тых 28 чалавек. Найперш гэта заслуга плошчы.

### «За час свайго дэпутацтва я ў Ваўкавыску зняў з пасад 27 чалавек»

**– А як і дзе жылі дэпутаты? Як былі забяспечаны матэрыяльна?**

– Я жыў у гатэлях – у «Кастрычніцкім», у «Мінску», у «Беларусі». Усім, хто быў на дзяржаўнай працы, захоўваўся сярэдні заробак. А я ж перад дэпутацтвам нідзе не працаваў, таму нічога не атрымліваў. Праўда, падчас сесіі іншагародні́м дэпутатам плацілі сутачныя. А яшчэ на сесіях нам штомесячна выдавалі 150 рублёў на дэпутацкія расходы – на канверты, маркі і г.д. А калі сесіі няма – перапынак, то я на шабашкі ездзіў.

**– Дэпутат Вярхоўнага Савета на… шабашкі?**

– А што тут дзіўнага? Выжываць жа неяк трэба было.

**– А што вы рабілі ў сваёй выбарчай акрузе? Як часта да вас звярталіся людзі, як ставіліся мясцовыя ўлады?**



Мікалай Аксаміт у хвіліны натхнення за мальбертам.

– Калі я быў дэпутатам Вярхоўнага Савета, то ў Ваўкавыску ў агульнай колькасці зняў з пасад 27 чалавек. Пачынаючы ад загадчыкаў магазінаў і заканчваючы начальнікам калоніі строгага рэжыму (УЖ 15/11) палкоўнікам Васілём Івончыкам. А ён быў вельмі ўплывовы чалавек, яго калонія была «дзяржавай у дзяржаве» (свая падсобная гаспадарка і г.д.). І вось гэты Івончык вырабляў для міністраў і другіх высокіх начальнікаў дачныя дамкі. З пушчы прывозілі будаўнічы лес, які афармляўся як сухастой, зэкі-майстры цалкам рабілі такія дамкі, што жыць круглы год можна было. Неяк мне Сяргей Антончык паказаў здымкі міністэрскіх дач, і я пазнаў ваўкавыскія «вырабы».

**– А па чым яны пазнаваліся?**

– Узоры пэўныя на вокнах, яшчэ нешта. Я ж у свой час сталярнічаў, то трохі разбіраўся. Сяргей кажа: «Добра было б пабываць у той калоніі, на месцы паглядзець». Мы сядзім у сталоўцы, а за суседнім сталом – міністр унутраных спраў Уладзімір Ягораў. Мы да яго. Ён прапанаваў у Мінску турму паглядзець, навошта ў Ваўкавыск ехаць? Але мы настойвалі, адмовіць у генерала падстаў не было. І вось Антончык з Барысам Гюнтарам прыехалі да мяне ў Ваўкавыск, мы сустрэліся ў калоніі з афіцэрамі, яны нам нават падрабязны план намалявалі, дзе што знаходзіцца.

**– Дык вы адразу не прызналіся, чаго прыехалі?**

– Не прызналіся, ходзім па тэрыторыі, глядзім, а там – дамкі. Мы давай хваліць Івончыка: «Ах, якія прыгожыя вы дамкі робіце, які вы добры гаспадар!» Ён аж расцвіў ад задавальнення. А дамкі тыя каштавалі проста смешныя грошы, за іх вы нават вокны па тагачасных цэнах не купілі б! Мы прыходзім у кантору і патрабуем начальніка планавага аддзела і ўсю дакументацыю на дамкі. У Івончыка сківіца і адвісла… У Мінску я перадаў папку з дакументамі Ягораву са словамі: «Можа, вы і мне за такія грошы прадасце дом, бо я жылля не маю». Ягораў паслаў у Ваўкавыск сваю камісію, і неўзабаве знялі таго Івончыка.

### «Па перыметры залы салдаты стаялі – з аўтаматамі і ручнымі кулямётамі!»

**– Вы ў ліку 19 дэпутатаў удзельнічалі ў пратэстнай галадоўцы ў Вярхоўным Савеце, але вас чамусьці няма на апублікаваных здымках.**

– Я далучыўся да хлопцаў пазней, бо якраз у той самы дзень здаваў іспыты на юрфаку ў Інстытуце правазнаўства. Са мной вучыліся яшчэ два дэпутаты, яны прыязджаюць і кажуць: «Мікола, ты тут сядзіш, а там твае фронтаўцы галадоўку аб'явілі». Я хуценька здаў іспыты, паехаў у Вярхоўны Савет і далучыўся да хлопцаў. Пры мне пачалі выганяць журналістаў, і мы зразумелі, што ў спакоі нас не пакінуць. Прыйшлі вайскоўцы, шукалі «міну». Помню, Лёня Здановіч шарж намаляваў на палкоўніка, які імі камандаваў. Дарэчы, вайскоўцы да нас нармальна паставіліся, палкоўнік, было відно, разумеў камедыйнасць становішча. Лёня нават падарыў яму той шарж. Сышлі вайскоўцы, мы спаць уладкаваліся. Раптам прыходзяць начальнік упраўлення аховы ВС Міхаіл Цесавец і начальнік аховы Лукашэнкі Вячаслаў Каралёў, з імі чалавек 15–20, усе ў цывільным. Мы селі ў ланцуг і сашчапілі рукі. У мяне з аднаго боку Барыс Гюнтар сядзеў, яго паспрабавалі адарваць. Мы пачалі на іх псіхалагічна ціснуць: «Хлопцы, што вы робіце! Вас за гэта судзіць будуць!» І яны сышлі. І тут мы пачулі тупат соцень ног. Заходзіць Цесавец: «Вам мінута на сборы!»

**– І як вы адрэагавалі на яго ўльтыматум?**

– Ніяк. Сядзім, як сядзелі. Адчыняюцца дзверы – і ўлятаюць нейкія істоты ў чорнай уніформе, у масках з прарэзамі для вачэй. Яны бягуць і з разгону, як малпы, скачуць проста на нас.

**– Страшна было?**

– Страху не было. Я быў не ў стане ўсё гэта адразу ацаніць. Гляджу – за першай хваляй «малпаў» другая бяжыць, за ёй трэцяя. І ўсе па-рознаму апрануты. Тры розныя групоўкі былі. Бачу – Зянон Пазьняк з левага боку падхапіўся, ён хацеў маску з аднаго сарваць. І вось яны нас месяць, а па перыметры залы салдаты стаяць – з аўтаматамі, нават з ручнымі кулямётамі!

### «Мне заламалі рукі і некалькі разоў гахнулі з усяга размаху аб сцяну»

**– Сяргей Навумчык у сваіх успамінах прыгадваў, што вы страцілі прытомнасць. Гэта праўда?**

– Так, таму мяне з залы самым апошнім выносілі. Калі на мяне скочыла чорная «малпа» і ўдарыла нагамі ў грудзі, пада мной зламалася крэсла, я праваліўся ўніз і сапраўды страціў прытомнасць. Я ляжаў на падлозе паміж крэсламі, «малпы» мяне проста не бачылі. Калі вынеслі ўсіх, пачалі прыбіраць рэчы і наткнуліся на мяне. Я ўжо апрытомнеў, калі мяне выцягнулі ў праход. Мне заламалі рукі так, што галава апынулася ніжэй каленяў, валаклі і некалькі разоў гахнулі з усяга размаху аб сцяну.

**– Хіба вы супраціўляліся?**

– Гэта было бессэнсоўна. Пры ўмелым удары аб сцяну ў цябе забіваецца дых, ты не можаш ні ўдыхнуць, ні выдыхнуць. У такім стане мяне і валаклі на выхад па прыступках. Як толькі я пачынаў дыхаць, мяне зноў аб сценку... На вуліцы стаяў міліцэйскі «ўазік» з адчыненай задняй дзверкай. Мяне з разгону закінулі ў машыну, я ледзь паспеў затуліць галаву, каб не ўдарыцца аб металічную скрыню з вострымі кантамі. Ва «ўазіку» разам са мной апынуліся дэпутаты Віталь Малашка і Лявон Дзейка.

**– Куды вы былі гатовы ехаць? У турму?**

– Вось тут я ўжо канчаткова дайшоў да цяму і думаў, што нас зараз недзе завязуць і расстраляюць. Папраўдзе. Я быў упэўнены, што працяг будзе яшчэ больш жудасны. А міліцыянт пытаецца: «Куды вас везці?» Я кажу: «Куды табе загадалі, туды і вязі». Нас прывезлі пад будынак Вярхоўнага Савета на вуліцы Карла Маркса *(якраз туды парламент толькі што перасяліўся. – **Рэд.**)*. Дзяжурны палкоўнік сказаў, што яму загадалі нас у будынак не пускаць. Яшчэ падышлі хлопцы, і мы скіраваліся ў так званую лечкамісію здымаць пабоі.

**– Пра што вы тады гаварылі? Як ацэньвалі сітуацыю?**

– Скажу шчыра: калі б мне тады далі ў рукі аўтамат – я страляў бы не задумваючыся! Не ведаю, як гэта растлумачыць.

**– Нармальная рэакцыя арганізма – калі цябе забіваюць, уключаецца рэфлекс самаабароны.**

– І ў хлопцаў падобны стан быў – нас проста трасло. Не ад страху, хутчэй ад бяссілля… А назаўтра ў цэнтр Мінска былі сцягнуты войскі. Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб назваў начныя падзеі дзяржаўным пераваротам. На плошчу ішлі людзі, многія з бел-чырвона-белымі сцягамі. Помню, і Мікола Статкевіч таксама прыйшоў са сцягам. Салдаты былі праінструктаваны, пачалі вырываць сцягі. Я тыкаў ім у твары сваё дэпутацкае пасведчанне. Статкевіч тады кінуў сцяг і збег. Я ўзяў той сцяг і павёў нешматлікую калону (чалавек 100) на Кастрычніцкую плошчу. Алег Трусаў пісаў, што ён узначаліў калону, гэта няпраўда. Мы дайшлі да Кастрычніцкай плошчы, дакладней, да скверыка перад Купалаўскім тэатрам. Нас увесь час здымалі аператары з вайсковай выпраўкай.

**– А як вы ў той дзень трапілі ў Вярхоўны Савет?**

– Пасяджэнне пачалося ў другой палове дня. Мы сілай прарвалі міліцэйскі заслон ва ўрадавым крыле. Сімпатыі дэпутатаў былі на нашым баку. Адзін Мікалай Дземянцей з месца выказаўся: «Мала вам далі…» Прыйшоў Цесавец, з ім счапіўся Валянцін Голубеў... Помню, як міністр абароны Анатоль Кастэнка з трыбуны пачаў хлусіць, што войскаў ноччу ў Вярхоўным Савеце не было. Былі. Працавалі тры групы – КДБ, МУС і арміі.

**– Вядома, што супраць лому няма прыёму. І ўсё ж ці ўсё правільна было зроблена ў той сітуацыі з вашага боку?**

– Ноччу што мы маглі зрабіць? А вось на другі дзень Пазьняк сказаў: «У гэтай зале пралілася кроў, і сядзець тут амаральна…» І мы ўсе сышлі ў залу для прэс-канферэнцый і назіралі за пасяджэннем па тэлевізары. Вось тут была зроблена памылка. І Лукашэнка гэтым скарыстаўся. Ён выйшаў на трыбуну і пачаў на нас несці такое… І змог пераламіць сітуацыю. А калі б мы засталіся ў зале, праявілі настойлівасць, то, магчыма, у той жа дзень дамагліся б імпічменту. Але гэта мая асабістая думка.

### «Шэйман мне кажа з такім гонарам: «Цяпер Беларуссю два чалавекі кіруюць – Лукашэнка і я»

**– Многія вашы калегі па Вярхоўным Савеце пайшлі служыць ва ўладныя структуры. Ці даводзілася вам па нейкіх справах звяртацца да іх?**

– Толькі аднойчы. Здарылася так, што ў 1996 годзе майго бацьку збіў на машыне п'яны сын старшыні Ваўкавыскага райвыканкама Івана Дуброўскага. Бацька памучыўся і праз 4 месяцы памёр. Крымінальную справу то адкрывалі, то закрывалі. Я ездзіў да міністра ўнутраных спраў, да генеральнага пракурора, дзе толькі не быў! З'езджу – справу распачнуць, а потым зноў закрыюць. І мне падказалі тэлефон Віктара Шэймана, ён тады быў сакратаром Савета бяспекі, які знаходзіўся ў былым будынку Вярхоўнага Савета на Карла Маркса. Прыходжу, сакратарка кажа трохі пачакаць. Раптам выходзіць Шэйман: «О, Мікалай, заходзь. Расказвай, у чым справа». Я расказаў. Пагаварылі хвілін дзесяць. І ён мне кажа: «Ведаеш, Мікалай, цяпер Беларуссю два чалавекі кіруюць – Лукашэнка і я». З такім гонарам. І было гэта за тыдні тры да знікнення Ганчара і Красоўскага…

**– А ці дапамог Шэйман пакараць злачынцу?**

– Прыязджалі ў Ваўкавыск людзі з Мінска, разбіраліся. Сын чыноўніка застаўся на волі, яго нават правоў кіроўцы не пазбавілі. Праўда, пазбавілі пасады – ён быў начальнікам Ваўкавыскай мытні.

### «У мяне такі досвед выжывання, што я і ў пустыні выжыву»

**– Пасля разгону Вярхоўнага Савета многія вашы калегі па фракцыі мелі праблемы з працаўладкаваннем. Выжывалі хто як мог. А вы?**

– Я без дзяржаўнай працы з 1986 года. У мяне ўжо такі досвед выжывання, што я і ў пустыні выжыву. Чатыры з паловай гады працаваў у Польшчы на будоўлі, займаўся тынкоўкай, сталяркай. Дарэчы, рамонт у сваёй хаце рабіў сваімі рукамі. Потым амаль чатыры гады пад Масквой у Сафонаве – таксама на будоўлі. Тут уладкавацца немагчыма было нідзе.

**– У Ваўкавыскай гімназіі №1 я бачыў вашы цудоўныя роспісы – насценныя партрэты Францішка Скарыны, Кастуся Каліноўскага, Канстанціна Астрожскага... Калі яны былі зроблены?**

– Мы іх удваіх з жонкай Галінай зрабілі ў 1996–1997 гадах. Яна таксама мастачка, мы з ёй разам вучыліся ў Тэатральна-мастацкім інстытуце, яна на курс малодшая. Галіна якраз у той школе працуе, там усе сцены намі распісаны. На другім паверсе – роспісы на сюжэты беларускіх народных казак. Зрабілі мы практычна за дзякуй, школа – не тое месца, дзе можна зарабіць. Нават тэлебачанне гродзенскае прыязджала і здымала. Мы з Галінай распісалі і Гнезнаўскую школу, там былі выявы нашых асветнікаў ад Еўфрасінні Полацкай да Васіля Быкава. Але ў Гнезне нашы малюнкі праз год замалявалі.

**– Шкада было?**

– Шкада, вядома ж. Асабліва балюча было, што здымкаў практычна не засталося.

**– Жонка вас ва ўсім падтрымлівае? Хто ў хаце галоўны?**

– У нас няма такога. Калі яна бачыць, што я ўпёрся, то саступіць. Бывае, і я саступаю. Каб не жонка – я не вытрымаў бы. Шмат хто ламаўся, калі ў сям'і падтрымкі не было.

**– А не папракала жонка за беспрацоўе?**

– Ніколі. Нават калі капейкі ў хаце не было.

### «Лукашэнка публічна запрашаў мяне ў сваю каманду»

**– А што гэта за гісторыя з прыездам у Ваўкавыск Лукашэнкі ў 1994 годзе, падчас прэзідэнцкай кампаніі? Кажуць, гэта вы яго прывозілі.**

– Мы са свіслацкім дэпутатам Анатолем Кузьмой дамовіліся: ён у Свіслач прывозіць Пазьняка, а я ў Ваўкавыск – Лукашэнку. Пазьняк да таго часу ў Ваўкавыску ўжо выступаў, я арганізаваў. Прыехалі на бусе Голубеў, Пазьняк, Галя Сямдзянава, Саша Сасноў. Арганізавалі сустрэчу ў гарадскім Доме культуры, ён быў забіты біткам, нават па гучнай сувязі наладзілі трансляцыю па ўсім горадзе, як на 1 Мая. Сустрэча з Лукашэнкам праходзіла ў парку, людзей сабралася менш, чалавек 300. З маёй падачы задавалі розныя нязручныя пытанні. Тады ж Лукашэнка публічна запрасіў мяне ў сваю каманду. А я таксама публічна адмовіў яму. Ён паехаў адсюль раззлаваны, нават не развітаўся. У выніку ў Ваўкавыску найбольш галасоў набралі Шушкевіч і Пазьняк.

**– А ніколі не шкадавалі, што не прынялі тады прапанову Лукашэнкі? Былі б сёння як мінімум мэрам Ваўкавыска.**

– Мне такое ж пытанне задавалі ў Польшчы, калі я там працаваў. Неяк быў у нас суботнік, і мы падмяталі тэрыторыю. А палякі ведалі, што я дэпутатам быў. І вось адзін з іх пытаецца: «Каб цябе з мятлой Лукашэнка пабачыў, ці не сорамна табе было б?» Я адказаў, што мне сорамна было б, калі б я здрадзіў сваім прынцыпам.

### «А Мілінкевіч з маладой жонкай пайшлі ўскладаць кветкі да помніка на плошчы Перамогі»

**– У наступным годзе ў Беларусі будзе адзначацца 25-годдзе прэзідэнцтва Лукашэнкі. А ці была за чвэрць стагоддзя хоць адна рэальная магчымасць памяняць уладу?**

– Была. Апошні раз – у 2006-м, калі балатаваўся Аляксандр Мілінкевіч. Тады тысяч 50 народу выйшла на плошчу, я сам там быў. Помню, як пайшоў густы снег, і людзі скандзіравалі: «Мы не сыдзем!» А Мілінкевіч з маладой жонкай пайшлі ўскладаць кветкі да помніка на Плошчы Перамогі і не вярнуліся. Людзі сталі разыходзіцца, нас тады рэальна кінулі. А калі б прастаялі ноч і дзень, то на наступны дзень там сабралася б ужо тысяч 150.

**– Але што дало б тое стаянне на плошчы, хай сабе і самае шматлюднае?**

– Што дало б? Помніце, я згадваў палкоўніка каля будынка Вярхоўнага Савета? Дык вось, той самы палкоўнік быў разам з намі на плошчы, і я з ім размаўляў. Ён сказаў: «Мікалай Уладзіміравіч, калі вас будзе 100 тысяч, на ваш бок пяройдзе міліцыя». Думаю, так і было б. А калі людзі разышліся, на наступны дзень выйшлі юнакі – гэта гераічны ўчынак, але нічога змяніць было ўжо нельга.

### «Як бы кепска ні жылося, беларусы ў Расію не хочуць»

**– І апошняе пытанне. Скажыце, па вашых адчуваннях, за 27 гадоў жыцця ў незалежнай Беларусі беларусы ўсвядомілі каштоўнасць гэтай самай незалежнасці?**

– Безумоўна, усвядомілі. Паводле апошніх сацыялагічных даследаванняў, прыхільнікаў незалежнасці з кожным годам большае. Як бы кепска ні жылося ў Беларусі, нашы суайчыннікі ў Расію не хочуць. Менталітэт народа стаў другі, людзі зразумелі, што дзяржаўная незалежнасць – гэта сапраўды каштоўнасць. Гэта і Лукашэнка разумее, ён ніколі добраахвотна на аб'яднанне з Расіяй не пойдзе. Ён хоча быць гаспадаром на сваёй зямлі. Я ў свой час служыў у войску ў Маскве. І тады мне здавалася, што няма розніцы паміж беларусам і рускім. Нічога падобнага. Я жыў у Польшчы і магу сказаць, што і ад палякаў мы ментальна адрозніваемся. Беларус калі ўжо завядзецца, то будзе ісці, як танк, але завесці яго цяжка.

**Міхась СКОБЛА.**

*Мінск–Ваўкавыск.*

Народная Воля http://www.nv-online.info 16 ЛІСТАПАДА 2018 г.

ЧУЛІ?

# Палякам, дэпартаваным у СССР, выплацяць кампенсацыю?

*Мяркуецца, што за кожны поўны месяц рэпрэсій яны атрымаюць па 200 злотых (больш за 46,5 еўра).*



Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда ўнёс у Сейм праект закона аб прадастаўленні грашовай дапамогі грамадзянам, якія ў 1939–1956 гадах былі дэпартаваны ў СССР.

Законапраект прадугледжвае выплату пацярпелым дапамогі ў памеры, які будзе залежаць ад часу ссылкі. За кожны поўны месяц рэпрэсій яны атрымаюць па 200 злотых (больш за 46,5 еўра). Агулам дапамога не павінна быць меншая за 2400 злотых (амаль 559,5 еўра). У кожным канкрэтным выпадку памер грашовай дапамогі будзе вызначаць Фонд сацыяльнага страхавання.

Дапамогай змогуць скарыстацца як людзі, дэпартаваныя з тэрыторыі Польшчы ў Савецкі Саюз, так і тыя, хто нарадзіўся ў выгнанні.

Калі Сейм прыме гэты закон, то, мяркуючы па ўсім, атрымаць кампенсацыю змогуць і былыя жыхары Заходняй Беларусі, якая з 1921-га па 1939 год уваходзіла ў склад Польшчы.

БОЛЬШИЕ ПОЛИТИКИ

# Михаил СААКАШВИЛИ: Тут безумно скучно!

Ровно девять месяцев прошло с момента выдворения из Украины весьма харизматичного политика, экс-президента Грузии **Михаила Саакашвили**. Чем политик занимается сейчас?



30 мая 2015 года в Одессе президент Украины **Петр Порошенко** произнес: *«Михаил Саакашвили – мой друг со студенческих лет. Я помню его как волевого и решительного человека и имею основания ему доверять»*. Не прошло и двух лет, как из большого друга Саакашвили превратился в заклятого врага.

Уже в июле 2017 года, спустя восемь месяцев после ухода в отставку с поста руководителя Одесской области, Михаила Саакашвили лишили украинского гражданства и запретили въезд в Украину. Сами основания и обстоятельства совершенной процедуры достаточно сомнительны с точки зрения закона, произведены испотишка, за спиной Саакашвили в момент его отсутствия в стране.

Несмотря на эти обстоятельства, в сентябре прошлого года Михаил Саакашвили вернулся в Украину и стал одним из самых ярких оппозиционных украинских лидеров. Пять месяцев жесткой бескомпромиссной борьбы, блокирование правительственного квартала, многочисленные митинги, поездки по стране – сложно было угрозами остановить прущего, как танк, опального политика. Даже обвинение чуть ли не в государственной измене не смогло отвернуть от Саакашвили простых людей, поддерживающих его.

12 февраля 2018 года произошел очередной юридический нонсенс: в нарушение всех законных процедур одного из главных подозреваемых в преступлении против государства даже не арестовали, а похитили в центре Киева неизвестные люди. Как потом выяснилось, ими оказались представители частного охранного агентства. На частном самолете оппозиционного политика вывезли в соседнюю Польшу, назвав это красивым словом «реадмиссия».

В цивилизованном мире обычно просят, чтобы подозреваемых в совершении противоправных действий, спрятавшихся в другом государстве, задержали и экстрадировали в страну, где совершено преступление. Но Украина – необычная страна. Там правоохранительные органы выдворяют подозреваемого из страны, что лишний раз доказывает: уголовное дело против оппозиционера шито белыми нитками. А сейчас оно и вовсе приостановлено, потому что главный подозреваемый депортирован из страны. Нонсенс!

Чем сейчас занят Саакашвили? По-прежнему живет в арендованной небольшой квартире в центре Амстердама. Читает лекции и вспоминает былые времена, когда к нему заглядывали на огонек единомышленники или журналисты. Последнее время в Украине о нем все реже вспоминают. Лидерам, позиционирующим себя как оппозиционеры, он перестал быть нужен.

*«Тут безумно скучно!»* – так охарактеризовал свою нынешнюю жизнь Михаил Саакашвили. Спокойная и сытая жизнь западноевропейца не по нутру такой деятельной натуре, как Михаил Саакашвили, и он немного заскучал. Но последние месяц-полтора внесли определенные позитивные коррективы в его размеренную жизнь.

События в Грузии позволили ему ощутить себя нужным обществу и несколько разбавили его скучную жизнь, позволив вновь расправить плечи. Его мегапопулярная страничка в «Фэйсбуке» сейчас больше чем на 95% состоит из сообщений исключительно на грузинском языке. Немудрено. Его друг и соратник **Григол Вашадзе** в первом туре президентских выборов занял второе место, отстав от провластного кандидата менее чем на 1%. Теперь он имеет большие шансы победить во втором туре и стать следующим президентом Грузии.

Эта победа даст возможность Саакашвили снова стать востребованным и окунуться в бурную политическую жизнь, только уже не в Украине, а в родной Грузии, где он, кстати, также лишен гражданства и где против него возбуждено уголовное дело. Сам Михаил Саакашвили заявляет, что после победы в выборах оппозиционного кандидата готов вернуться в Грузию и восстановить свое честное имя в открытом суде. А после этого вновь сосредоточиться на событиях в Украине. Состоится ли реванш Саакашвили, станет известно в течение двух недель, а пока неувядаемый Михо подпитывается только надеждой.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

СУД И ДЕЛО

# ЕСПЧ признал задержания Навального политически мотивированными

Большая палата Европейского суда по правам человека (ЕСПЧ) вынесла финальное решение по иску российского политика Алексея Навального о семи задержаниях и административных арестах в 2012–2014 годах.

ЕСПЧ постановил, что в отношении Навального была нарушена статья 18 Европейской конвенции по правам человека. В сочетании с двумя другими статьями Конвенции это позволяет сделать вывод, что оппозиционера преследовали по политическим мотивам, решил суд.

Именно этого добивался Навальный, когда подавал жалобу на первоначальный вердикт ЕСПЧ по этому делу, обнародованный 2 февраля 2017 года.

Почти два года назад ЕСПЧ присудил политику 63,5 тысячи евро, признав нарушение его прав на свободу собраний и справедливое судебное разбирательство.

При этом Страсбургский суд не признал, что в случае с задержаниями оппозиционера была нарушена статья 18 Европейской конвенции о правах человека об ограничении прав и свобод.

В апреле 2017 года Россия в лице Министерства юстиции обжаловала вердикт ЕСПЧ. С решением суда частично не согласился и сам Навальный, который настаивал на политической мотивированности в действиях российских властей.

Обе стороны направили в суд свои жалобы, и в мае 2017 года ЕСПЧ принял решение рассмотреть дело еще раз.

До сих пор единственным гражданином России, которого ЕСПЧ официально признал преследуемым по политическим мотивам, был медиамагнат Владимир Гусинский. В 2004 году Европейский суд признал политически мотивированным его задержание в 2000 году.

Навальный уже трижды получал компенсации, присужденные ЕСПЧ. В 2015 году Россия выплатила ему 26 тысяч евро за 15 суток административного ареста, в 2016-м – 56 тысяч евро по делу "Кировлеса", а в 2018-м – более 4 млн руб. по делу "Ив Роше".



У СОСЕДЕЙ

## В Литве будут поощрять за сообщения о коррупции

С 1 января 2019 года те, кто сообщает в прокуратуру о фактах коррупции, получат за это однократную выплату. Сумма не регламентируется – ее для каждого случая требования денежного поощрения установит комиссия при Генпрокуратуре, сообщает 15min.lt.

Отдельно в постановлении правительства оговорена сумма компенсации тем, кто в результате донесения столкнулся с «нежелательными последствиями». Это может быть потеря работы, утрата дохода, перевод на другую должность или судебные издержки. В таком случае можно получить 50 базовых размеров социальных выплат (сейчас это 1900 евро).

Согласно постановлению правительства, государственные и муниципальные учреждения создадут каналы передачи информации о коррупционных нарушениях и регламентируют передачу и обработку этой информации. Также они обязаны обеспечить анонимность «докладчиков».

Такие системы должны выстроить также частные компании с более чем 50 сотрудниками.

У НАС

СЛЫШАЛИ?

# 21-этажный жилой комплекс для белорусского посольства в Москве

*Его построит минский стройтрест №4, генподрядчиком выступает СУ-13, которое возвело комплекс «Аквапарк «Лебяжий» и новое здание Верховного суда. Вот как будет выглядеть новый белорусский комплекс в Москве.*

Жилой комплекс посольства Беларуси строят на основании указа Александра Лукашенко от 2014 года. Объект возведут на Погонном проезде, 7. Это район "Богородское" в Восточном административном округе.

В многоэтажке будет 100 квартир: 20 однокомнатных, 52 двухкомнатные и 27 трехкомнатных. Запроектирована также квартира атташе с залом заседаний.

В пристройке на уровне первого этажа предусмотрен физкультурно-оздоровительный комплекс с тренажерным залом, мини-бассейном и сауной. На подземном этаже – одноуровневая стоянка на 60 машино-мест.

На территории комплекса сделают также открытую автостоянку на 26 автомобилей с местами для хранения велосипедов. Согласно межправительственному соглашению, земельный участок под жилой комплекс белорусского посольства предоставлен Беларуси на 49 лет с арендной платой в размере одного российского рубля в год.

Взамен Беларусь предоставила России в аренду на 49 лет земельный участок на Коммунистической, 86 для строительства и эксплуатации здания культурно-делового центра. Сейчас там находится Дом Москвы. Арендная плата составляет один белорусский рубль в год.



РАКУРС

## Нефть подешевела, а цены на бензин будут расти

За последний месяц нефть на мировых рынках подешевела на четверть. Такого стремительного снижения не отмечалось с 2015 года, замечают эксперты.

В Беларуси цены на бензин тоже зависят от мировых цен на нефть – не раз констатировали в правительстве. Так, может, сейчас топливо на белорусских АЗС подешевеет?

Оказывается, нет. *«Решение об увеличении либо снижении цены на моторное топливо принимается после тщательного анализа ситуации по нескольким показателям: стоимость нефти, курс белорусского рубля, динамика цен в соседних странах, налоговая составляющая»*,– заявил вчера, посещая ОАО «Нафтан», председатель концерна «Белнефтехим» **Андрей Рыбаков**. И пояснил, что увеличение цен на бензин, которое мы наблюдаем весь этот год, не компенсировало изменения стоимости сырья даже с учетом начала снижения стоимости нефти в последние недели.

*«В любом случае цены на АЗС Беларуси будут изменяться постепенно, без рывков»*, – добавил он.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

НУ І НУ!

## Папрасіў прабачэння ў… помніка

Здарэнне адбылося ў Мінску на вуліцы Гарадскі Вал насупраць Міністэрства ўнутраных спраў. Малады чалавек праходзіў ля скульптуры міліцыянера гарадавога і ўдарыў помнік па твары. Хлопец адразу ж быў затрыманы.

Як паведамляе сайт Міністэрства ўнутраных спраў, на 16-гадовага навучэнца сталічнага ліцэя склалі адміністрацыйны пратакол за дробнае хуліганства. Таксама на відэакамеру хлопец выказаў словы шкадавання за свой учынак і прынёс прабачэнні помніку.

**Віктар ШПАК.**

ВЫСТАВЫ

# Цытата на кубку з кавай

***Выставы, як вядома, бываюць розныя: ад мастакоў карцін да егіпецкіх мумій. Але прыдумаць вернісаж цытат – гэта, пагадзіцеся, наватарства. Менавіта такую незвычайную экспазіцыю стварылі дзве крэатыўныя жанчыны з польскай Познані Дар'я Мельцажэвіч і Барбара Канцэвіч.***

"Крама з цытатамі" – так называецца іх галерэя ў Познані, так назвалі яны і выставу, што адкрылася 13 лістапада ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў рамках праекта "Месяц польскай літаратуры", ініцыятарам якога стаў Польскі інстытут у Мінску.

Аказваецца, знакамітых суайчыннікаў можна папулярызаваць вельмі прыкладным спосабам. Напрыклад, нанесці іх мудрыя і дасціпныя выказванні не толькі на больш-менш звыклыя нам плакаты, а і на самыя звычайныя прадметы: кубкі для кавы, майкі, сумкі, нататнікі, ручкі, значкі, падушкі, шэзлонгі – на ўсё тое, чым кожны з нас увесь час карыстаецца ў побыце.

Навошта "расцягваць" вялікіх землякоў на цытаты, ды яшчэ размешчаныя на побытавых рэчах? А чаму б і не? Бо і такім чынам можна прышчапляць моладзі цікавасць да чытання, да культурнай спадчыны продкаў, лічыць пані Дар'я. Тым больш што мудрыя выразы не проста вырваны з кантэксту. Дар'я, таленавітая мастачка, дызайнер, фатограф і тэатразнаўца, суправаджае кожную прыведзеную цытату адмыслова выкананым арыгінальным партрэтам аўтара выказвання. "Мне заўсёды хацелася ўявіць, як выглядаў аўтар кнігі, што выклікала цікавасць, – патлумачыла яна. – Асабліва калі складальнікі кніг не лічылі патрэбным змяшчаць партрэт творцы".

Спецыяльна для карэспандэнта "Народнай Волі" пані Дар'я і пані Барбара расказалі цікавыя падрабязнасці пра ўвасабленне сумеснай задумкі. Хочацца верце, хочацца не, адбывалася ўсё, амаль як у Ньютана, – у садзе пані Барбары, якая выкладала ва ўніверсітэце, дзе вучылася Дар'я. Не, яблык на галаву не абрынуўся. А ідэя – так, быццам звалілася з неба і аказалася ўдалай. Пачыналі сваімі сіламі – надрукавалі першыя партрэты з цытатамі, далі рэкламу. Сёння размешчаная ў цэнтры Познані крама, дзе кожны жадаючы можа набыць выбраны на свой густ арт-прадмет, увайшла ў спіс 10 незвычайных крам свету. На дапамогу прыйшоў і інтэрнэт, праз які можна заказаць сувенір з любімай цытатай – з любой краіны, у тым ліку і з Беларусі. Кола аўтараў цытат таксама пашыралася і выйшла, як і папулярнасць вырабаў, далёка за межы Польшчы. Да Юліяна Тувіма, Яна Каханоўскага, Генрыка Сянкевіча, Марыі Кюры-Складоўскай дадаліся Пушкін, Дастаеўскі, Чэхаў, Талстой.



Крэатыўныя госці з Польшчы прывезлі ў Мінск толькі частку сваёй калекцыі – 30 цытат з графічным афармленнем. Хачу аддаць належнае супрацоўнікам Нацыянальнай бібліятэкі: яны ўдала дапоўнілі экспазіцыю кнігамі названых аўтараў, што захоўваюцца ў айчынных фондах. Дарэчы, добрая візуальная матывацыя, каб пачытаць твор цалкам. А ўсяго ў мастацкім зборы ў познаньскай галерэі 140 партрэтаў знакамітых людзей з іх крылатымі выразамі.

Я запыталася: а як наконт беларускіх творцаў? На жаль, пакуль ніхто з нашых землякоў у гэты ганаровы шэраг не трапіў. Хаця… Адам Міцкевіч жа ёсць! Можа, з'явяцца і іншыя выбітныя беларусы. Мы ж добрыя суседзі. Дарэчы, нашы госці наведалі Беларусь упершыню і ім вельмі спадабаўся Мінск.

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**

